Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



# КАМУНІКАТ Но.4 (58 ад 1990), Красавік, 2001

---

## БЕЛАРУСКІ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ ЛЯ РАТУШЫ ТАРОНТА

Сёлета прыпадаюць 35-я ўгодлі Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК). У Камунікаце Нр. 14, за 2000 год, на парозе 21-га стагодзьдзя, мы падалі агульны нарыс гісторыі ККБК.

Сяньня пры нагодзе сьвяткаваньня 83-х угодкаў 25 Сакавіка, ды 35-х угодкаў ККБК, дапоўнім нарыс расказам пра 31- гадовую традыцыю ўзьніманьня на ўгодкі 25 Сакавіка ля Ратышы Таронта беларускага бел-чырвона-белага сьцягу .

У 1970, на чацьвертым годзе свайго існаваньня, ККБК пад старшынствам др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча зьвярнуўся да Сіты Гол Таронта з просьбай узьняць на 25 Сакавіка ля Ратушы Таронта беларускі бел-чырвона-белы сьцяг ды абвесьціць у Таронта Дзень 25 Сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі. Дазвол быў дадзены.

23 сакавіка, 1970 году, дэлегацыя ККБК у складзе старшыні др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, двох сакратароў: англямоўнага - Лын Кулеш і беларускамоўнага Раісы Жук-Грышкевіч ды Антона Маркевіча перадала Дырэктару Гарадзкой Маемасьці, сп Вудынгтон, беларускі бел-чырвона-белы сьцяг, разьмерам 90 інчаў даўжыні й 45 інчаў шырыні, дзеля ўзьняцьця яго ў дзень 25 Сакавіка ля Ратушы Таронта. Сп. Антон Маркевіч сфатаграфаваў цырымонію перадачы беларускага бел-чырвона-белага сьцягу сп. Вудіыгтон. Гэты гістарычны здымак зьмешчаны на 532 бачыне кнігі: «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча». І той самы беларускі сьцяг перахоўваецца ў Сіты Гол па сяньня і 24 сакавіка, 2001, у 7 гадзін раніцы быў ўзьняты ля Сіты Гол Таронта.

Таго-ж 23 сакавіка, 1970 году, дэлегацыя ККБК атрымала ў канцыляры Мэра Таронта тры копіі праклямацыі абвешчаньнея 25 Сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі для апублікаваньня яе ў Тарантонцкай прэсе.

І гэтак, праклямацыя, што абвяшчала WEDNESDAY, MARCH 25TH, 1970, "BELARUSSIAN INDEPENDENCE DAY" была зьмешчана, як платная публікацыя (каштавака 80.00 даляраў) у газэце "Globe and Mail" 25 sakavika, на другой яе бачыне і апрача таго ліст К. Акулы на тэму сьвята. «Торонто Дailі Стар» зьмясьціла кароткую зацемку аб нашым сьвяце і праклямацыю Мэра Таронта 24 сакавіка , апрача таго праклямацыя была перадана праз радыё СФРБ.

У сераду, 25 сакавіка , 1970 году , ад усходу да заходу сонца ўзьвіваўся ля Ратушы Таронта першы раз у гісторыі Канады беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Падвечар сабраліся на Натан Філіп Сквэры каля Ратушы беларусы Таронта й ваколіц палюбавацца сваім сьцягам, што так вольна й прыгожа разьвіваўся над сталіцай



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

Антарыя, што гаварыў сьвету аб няўміручасьці ідэі 25 Сакавіка - ідэі Незалежнасьці Беларусі. Гаварыў аб адданасьці гэтай ідэі беларусаў, якіх эміграцкі лёс закінуў за мора ў Канаду.

Гістарычны здымак, выкананьньня Юркі Акулы, з узьнятым першы раз у гісторыі Канады на 25 сакавіка, 1970 г. ля Ратушы Таронта беларускім бел-чырвона-белым сьцягам, ды групай беларусаў задакумэнтаваны на 535 бачыне кнігі «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча». А на наступнай бачыне здымак зь бел-чырвона-белым сьвягам ля Ратушы Таронта 25 сакавіка, 1971 году. Ніжэй падаем тэкст дэклярацыі Мэра Таронта:

**MAYOR'S OFFICE**
**TORONTO**

WILLIAM DENNISON
MAYOR

BRYAN LLOYD
EXECUTIVE ASSISTANT

CITY OF TORONTO – PUBLIC NOTICE
"BELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY"

WEDNESDAY, MARCH 25TH, 1970.

The City of Toronto has been approached by the Belorussian Canadian Coordinating Committee to proclaim Wednesday, March 25th as "Belorussian Independence Day."

This year marks the Fifty-second Anniversary of the independence of the Belorussian Democratic Republic, which was shortlived as the government was overthrown, and forced into exile. Belorussian people, who have become useful and worthy citizens of Canada, continue to strive, hope and pray that justice and freedom will be restored in their native land.

The City of Toronto is therefore pleased to proclaim Wednesday, March 25th, 1970, as "Belorussian Independence Day" in recognition of ceremonies to be held that day and to bring attention to the Belorussian fight for freedom.

(Signed) Mayor.

Mayor's Office, City Hall, Toronto,
March 24, 1970.

Клопатам пра тое, каб кажны год на сьвята 25 Сакавіка, ля ратушы Таронта быў узьняты беларускі бел-чырвона-белы сьцяг амаль праз 30 год займаўся быўшы заступнік старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады Паўлюк Пашкевіч, што жыве цяпер у Оўквіл. Сёлета клопат гэты пераняла Старшыня ККБК. Беларускія Тарантонцы з удзелам старшыні ЗБК Надзеі Дробіна сабраліся ў суботу 24 сакавіка на Філіп Натанс плошчы, каб палюбавацца сваім родным бел-чыурвона-белым сьцягам, што вольна й горда ўзьвіваўся над мільённым горадам Таронта, над гасьціннай дэмакратычнай краінай Канады.

**У нядзелю 25 сакавіка, 2001,** бел-чырвона-белы сьцяг разам з канадыйскім узьвіваліся ля Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта. Ужо зраніцы ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага Першаерарх БАПЦ Мітрапаліт Уладыка Мікалай адпраўляў Сьв. Літургію й Малебен за Беларусь, сказаў гарачую рэлігійна-патрыятычную казань. Маленьні закончыліся агульнаадсьпяваным гімнам «Магутны Божа».

Пасьля полудня - Урачысты Сход, які вяла старшыня ЗБК Надзея Дробіна. Яна зачытала прывітаньне Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла, лісту прывітаньняў ад беларускіх арганізацыяў з усяго сьвету. Асабіста вітала сход старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевуіч. Ключавы даклад меў сябра Галоўнай Управы ЗБК Ігар Цітавець. Прамаўляў Кастусь Акула. Маладзенькая Манькоўская сказала верш Максіма Багдановіча «Зорка Вэнэра». Вучаніца сярэдняй школы Паўліна Ціханоўская пад музыку свайго бацькі Віктара Ціханоўскага прафэсійна выканала вязанку беларускх народных танцаў, сярод якіх трыумфавала незаменная Лавоніха. Урачыстасьці закончыліся гімнам : «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## А 26 сакавіка пачаўся ТЫДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯР ГЕНАЦЫДУ

Урад Правінцыі Онтарыё праклямаваў тыдзень, што пачынаецца 4-м панядзелкам у сакавіку - ад 26 сакавіка да 1 красавіка 2001:

**Genocide Memorial Week in Ontario Act 2000**

Беларускае грамадзтва малітвамі й мэмарыяльным сходам аддавала пашану памяці ахвяр генацыду ў Беларусі ў:

**Нядзелю 1-га красавіка у БР-ГЦ, 524 St. Clarens Ave. Toronto**

**У Праграме ўрачыстасьцаў:**

10:00 гадз. зраніцы - Сьв. Літургія й Паніхіда за пакутнікаў у БАПЦаркве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта

12:00 гадз. дня - Мэмарыяльны сход у залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта.

Даклады: - Раісы Жук-Грышкевіч
Руслана Качаткоў

У малітвах і ўспамібнах услаўлялі мы памяць нашых, ня раз родных, пакутнікаў, што былі загубленыя за любоў да нашай Бацькаўшчына-Беларусі.

Мэмарыяльнымі ўрачыстасьцамі памяці ахвяр генацыду мы адтвараем у нашай памяці пакутную гісторыю нашага Краю, выражаем пратэст супраць генацыду над людзтвам і дамагньне, каб такое варварскае злачынства супраць людзкасьці болей на сьвеце не паўтаралася.

**Вечная Вам Памяць Пакутнікі Беларусі!**
**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

## 26 КРАСАВІКА - 15-я ЎГОДКІ ЧАРНОБЫЛЬСКАГА НЯШЧАСЬЦЯ

## ХРОНІКА АДНАГО ПЕРАСЯЛЕНЬНЯ

Як навала якая,
Нячакана, нязвана
Наляцела бяда.
Як баліць гэта рана. . .
«Нездарма,
Цётка Хрыста казала, -
Птушка ўчора крычала
За вёскай жахліва,
Трывожна. . ..
Нездарма
У калодзежы зьнікла вада
Перад гэтай бядою.
А цяпер і ня трэба
Хадзіць за вадою. . .»
Анікога няма,
Апусьцела
Палеская вёска.
І машыны з малымі,
І павозкі
Па шляхох зарыпелі. . .
Ні набытку, ні клункаў.
Толькі ў хустачку дакумэнты
ды са сьцен паздымалі партрэ
Памяць гэта. . .
Бабкі ж несьлі іконы,
У іх, вядома, свае законы.
Ні набытку, ні клункаў.
Адны невялічлія думкі,
Ад якіх распухаюць галовы.
Непадоены каровы
Усьлед раўлі.
І завывалі сабакі
На панадворках. . .
Горка. . .
Дзед Мікіта - былы ваяка
Смаркаўся і плакаў,
І казаў:
«Нікуды не паеду
Ад роднай зямлі,
Ад магіл. . .
Перад сьмерцьцю
бадзяцца па сьвету?
Не паеду
Мала сіл
Засталося. . . »
«Што ты дурань стары? -
Бабка Прося галосіць. -
Радыяцыя. . .»
«Ат, прывыклі даўно. . .
Усё адно
Радыяцыя,
Мэліярацыя. . .
Хай яно ўсё згарыць. . .»
Не паеду, сказаў,
Тут застануся жыць,
Буду тут паміраць. . .»
І упала сьляза
Ў горкі пыл на дарогу,
Па якой да парогу
Няскора
Павернуцца людзі
«Го-о-ра. . . » -
Ляціць над прасторам,
І адгалосьсе
вецер разносіць. . .
«Божа, што ж гэта будзе» -
Бабка Прося галосіць,
І адчай і трывога
У жаночых вачах. .
Толькі пыл над дарогай,
Шэры пыл на вачах,
Міма хаты,
Праз поле
Машыны, павозкі,
Адгукаецца болем
Апусьцелая вёска.. . .
«Дзед Мікіта, пайшлі»
Мы - салдаты, -
Стартшыня адвярнуўся,
Сьлязу неўпрыкметку
Пальцам выцер, -
Пажывём на зямлі,
Будуць вёскі, палеткі,
І белыя гусі
Зьляцяцца на Прыпяць. . .
Нам, салдатам, ці плакаць?»
. . .Усьлед каровы раўлі
І завывалі сабакі.
Палесьце, Палесьсе. . .
Мая тут Радзіма.
У змроку трапеча,
Ня гасьне агонь.

**Міхась Башлакоў.**

---

**85-ты юбілей сп-ні Ніны Ляўковіч-Абрамчык.** 20 сакавіка жонцы быўшага Старшыні Рады БНР, інж. Міколы Абрамчыка, сп-ні Ніне Абрамчык споўнілася 85 год. Родам з Пружаншчыны яна закончыла Віленскую Беларускую Гімназію, як студэнтка Унівэрсытэту Сьцяпана Батуру ў Вікьні, была сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу. Цікавілася Беларускім Музэем імя Івана Луцкевіча ў Вільні, слухала выклады яго дырэктара Антона Луцкевіча. Даравала Беларускаму Музэю ў Вільні поўны беларускі народны касьцюм з Пружаншчыны. Цяпер Ніна Абрамчык жыве з сынам Альгердам у Парыжы. Вітаем сп-ню Ніну Абрамчык зь юбілеем, жадаем Ёй добрага здароўя й яшчэ шмат годоў спакойнага жыцьця. Сто Год!

---

БЭРЫ, ТАРОНТА
КРАСАВІК, 2001

ДР. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ
СТАРШЫНЯ